# НАВІНКІ

20 - 27 сакавіка 2003 №7(86) Кошт свабодны



НАВІНКІ TV

Праграма тэлебачаньня 24-30 сакавіка 2003




## Багдад'2003: Дзень Незалежнасьці

## Трэцяя Сусьветная Вайна пачалася!!!

### На берагі Тыгру й Эўфрату паляцелі «тамагаўкі»... Аднак, хто м*ожа стаць* чарговым хлопчыкам для біцьця для **Пэнтагону**?

Іхто сапраўды стане тым самым бойфрэндам, які пакладзе сваё жыцьцё за «спрадвечныя» каштоўнасьці дэмакраты і свабоднага рынку? Без сумневу, ёсьць прынамсі адзін гэткі кадар – амэрыканскі прэзік. Але хто разам зь ім?.. (Вядома ж па-за ягоным войскам). Тут, як гавораць, гісторыя тужыцца стукнуць у яплішчы ўсялякімі досыць падазронымі фактамі, выкрытымі, як ні дзіўна, назіральнікамі ААН. Аказваецца, праўда, што гэтыя самыя назіральнікі так і не пацьвердзілі, ці сапраўды мае Ірак зброю масавага зьнішчэньня (пры тым што гэтая курва ў свой час нішчыла курдаў атрутнымі газамі)...

І тым ня менш гнюсны гнайнік на целе арабскага сьвету пад назвай saddamus huseinus vulgarus мусіць назаўсёды зьнікнуць зь цела нашай любімай плянэты Зямля. І пры гэтым, аказваецца, зусім ня мае значэньня, колькі халёных, выпеставаных на садамаўскіх харчах загіне жыхароў гэтай краіны, колькі школьнікаў будуць разарваныя на кавалкі супэр-пупэр-дакладнымі амэрыканскімі «пэтрыётамі»...

## ЭЛЕКТАРАЛЬНЫ БАХУС

### або пару замалёвак на выбарчую тэму

Закончыліся выбары ў мясцовыя саветы. У чарговы раз іхныя вынікі загналі ў тупік Манаева, Гэлапа ды іншых сацыялягічных мудрацоў-пандытаў. Электаральны бзік беларусаў не магчыма ўкласьці ў пракрустаў ложак фармальна-навуковага аналізу: іхні выбар немагчыма зразумець з пункту гледжаньня вэбэраўскай тэорыі, ані трактаваць з гледзішча тэорыі палітычных палёў Бурдзье, ані тым больш праз канцэпцыю інтэрактыўных камунікацыяў Хабэрмаса. Каб зразумець гэтую палітычную анамалію, трэба яшчэ раз уважліва і падрабязна прааналізаваць усе фазы айчыннага выбарчага рытуалу. Знайсьці, на якой стадыі кампаніі сапраўды робіцца акт выбару. Падчас чытаньня палітычнай афішы? Наш чалавек іх увогуле не чытае. Падчас аналізу біяграфіі кандыдата? Наш выбаршчык ня ведае, хто раскатаў губу трапіць у Гарсавет. Магчыма, ён выбірае кандыдата шляхам «счыталкі»: «стакан-лімон выйдзі вон-налей вады – выйдзі ў дэпутаты ты!»? Зноў ня тое...

Значнае месца ў палітычнай культуры беларускага выбаршчыка займае буфэт на ўчастку для галасаваньня. Абавязковай часткай асартымэнту пункту грамадзкага харчаваньня зьяўляецца гарэлка, піва або віно. Са сталінскіх часоў праяўленьне актыўнай грамадзянскай пазыцыі ўключае ў сябе абавязковы элемэнт спажываньня саракаградуснай або іншых таксінаў. Дэвіз беларускага выбаршчыка: «нам сто грам – бюлетэнь вам!» Ужываньне порцыі бухалава напярэдадні акту вызначэньня грамадзянскай волі – ня проста дзяжурная фармальнасьць. Як вядома, алькалоід уплывае на псыхіку, і такім чынам, ускосна або прама, на вызначэньне суб'ектыўных перавагаў грамадзяніна ў кабінцы для галасаваньня. У такім разе цікава зьвярнуць увагу на дывэрсыфікацыю алькагольных сымпатыяў. Адныя ўжываюць «Крыжачок», другія надаюць перавагу «Настойцы Белавескай», іншыя ўвогуле гераінавай шырцы. Кожны таксін па-рознаму ўплывае на працэсы ў мозгу і, як вынік, на палітычныя запросы. Гэта штурхае нас да сэнсацыйнай высновы, якая можа пакінуць бяз працы Манаева і ўсю ягоную кантору алхімікаў ад сацыялёгіі: беларускі выбаршчык (натуральна, несьвядома) абірае кандыдата адпаведна сорту алькалоіду, які ён напярэдадні ўжыў. Не патронка дэмакратычнага полісу Афінаў багіня Афіна-Палада, а бог вінаробства Бахус рухае рукой беларускага выбаршчыка, якая закрэсьлівае графу ў перадвыбарчым бюлетэні. Каб вэрыфікаваць гэты скандальны тэзыс, дастаткова прааналізаваць наступствы ўплыву спажываньня гэтага або іншага алькагольнага напою на сыстэму галаўнога мозгу, і індуцыраваць яго на электаральную манеру паводзінаў. Такім чынам, піце на здароўе – і будзьце палітычна актыўнымі!


**Замалёўкі на стар.16**



Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у ПРУП «Чырвоная Зорка», г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2332

Нумар падпісаны да друку 20.03.2003г., а 00.01. Тыраж 3000 экз.

Гэй, браток, прастаў стограмовік, а то няма сілаў з буфэту падняцца да выбарчай урны!

Як прагаласуеш за нашага кандыдата, то й бата прастаўлю

**ЧАРНІЛЫ** (яно ж бырла, яно ж шмурдзяк...). Спажываньне папулярных ў асяродзьдзі беларусаў танных пладова-ягадных напояў выклікае стан нарастаючай вяласьці, санлівасьці і аглушоннасьці. Такому чалавеку патрэбны стан абсалютнай нірваны. Дык за каго будзе галасаваць аматар чарнілаў? Зразумела, за кандыдата ад улады, які выступае за стабільнасьць і кансэрвацыю ўсіх грамадзкіа-палітычных зьяваў.

**ГАРЭЛКА** (яна, радзімая!). Увогуле клінічны стан спаджыўца алькаголю можна апісаць як зьмену двух станаў. Спачатку кароткачасовае ўзбуджэньне, агрэсія, імпульсіўнасьць (такі тып паводзінаў адпавядае кодэксу гонару апазыцыянэра). Брутальныя афэкты раптам зьмяняюцца агульным прыгнечаньнем, характэрным для спажыўцоў чарнілаў (як мы давялі вышэй – прыхільнікаў улады) Такім чынам, аматар горкай балансуе на мяжы сындромаў лаяльнасьці і апазыцыйнасьці. Больш за ўсё гэты дыягназ адпавядае дзейнасьці партыі камуністаў Калякіна.

О прэ, о прэ! Цяпер я з такой сілушкай і безь Лябедзькі зь Нямцовым з Лукашэнкам спраўлюся! Яшчэ пару кубікаў – і дыктатуры капец!

Во-во, зыр-ка! Зялёны Шарэцкі паляцеў!

А я кажу, наш Бацька пра'льна гэных дзермакратаў дручыць!

А я кажу, мала ім пістона ўстаўляюць! Мала!

Хто тут! Статкевіч? Шушкевіч? Кароль?.. Хто тут! Статкевіч?.. А! Макі!

**ТРАВА** (канабіс, яна ж канапля, яна ж анаша...). Тыя, хто паліць касяк, атырымліваюць у мозг порцыю таксіну пад назвай ТСН, які тармазіць псыхаматорныя функцыі арганізму. Паводзінавая рэакцыя ад дазьняку канабісу – заўважнае зьніжэньне *актыўнасьці, парушэньне* рухальных функцыяў, стан расслабону і разьняволенасьці. Пагаршэньне ўспрыняцьця пэрыфэрыйных сыгналаў нагадвае стан чалавека, якому да фанара рынкавыя рэформы,інтэграцыйныя працэсы і г.д. Адзінае, на што рэагуе аматар граса – слова "трава" і зьвязаныя зь ім асацыяцыі: поле, вёска, аграрны сэктар... Лябараторныя досьледы пацьвердзяць нашую гіпотэзу – так думае выбаршчык Аграрнай Партыі.

**АМФЭТАМІНЫ** (яны ж пэрвэнтын, яны ж вінт...). Сынтэтычныя наркотыкі, сымулятары какаіну. Амфэтаміны здольныя выклікаць незвычайны ўздым, зьняць пачуцьцё стомленасьці, стварыць стан незвычайнай сьветласьці розуму. Упэўненасьці ў сваіх сілах. Ці не нагадвае гэта эйфарыя псыхічны стан сябра лібэральнай Грамадзянскай Партыі, які патрабуе стварыць яму ўмовы дзікай канкурэнцыі, бо ўпэўнены ў сваіх сілах і здольнасьцях?

Што ты парысься, прыдурак! Усё адно ваш кандыдат ня пройдзе! А пройдзе той, хто буфэт для народу арганізаваў.

Так што кінь дурное, кульні яшчэ сотку й забудзься на гэтыя выбары-шмібары-хульбумбумібары...

**ГЕРАІН** (ён жа герасім, ён жа старшы...). Небясьпечны наркотык, які выклікае хуткае фізычнае прывыканьне. Чаму? Таму, што калі ўмазацца "герай", пачынаецца афігенны прыход. Вось як апісвае свой гераінавы досьвед наркаман: па целу разьліваецца блажэнства, геданізм урубается па максімуму, усё стаецца ў ружовых фарбах, усё ў кайф. Усе задавальненьні ў квадраце! Есьць і пабочкі. Бляваць будзеш вельмі моцна. На нашу думку пабочкі могуць быць ня толькі фізычнымі, аднак і палітычнымі. Цяга да ружовых колераў – абавязковых інгрэдыентаў трыпу ў гераінавы рай, абавязкова прывядзе гераіншчыка ў стан выбаршчыкаў сацыял-дэмакратычных партыяў.

**ГАЛЮЦЫНАГЕНЫ** (яны ж грыбы, а таксама кетамін...). "А у нас в Рязани есть грибы с глазами. Их едят, они глядят". Гэтыя вершы – тыповы фальклёр аматараў галюцынагенаў. У нашых шыротах галюцынагены часьцей за ўсё сустракаюцца ў выглядзе грыбоў кшталту мухамораў, або паганак. Першымі галюцынагеншчыкамі былі індзейцы, якія спажываючы атрутны грыб пераносіліся ў мінулае і мелі зносіны з продкамі, падданымі караля Інкаў. У адрозьненьні ад індзейцаў Мэксыкі беларус-галюцынагеншчык рэгулярна кантактуе з прапрадзедам часоў Вялікага Княства Літоўскага. У палітычным пляне ілюзорна-кампансатарскі тып спажыўца ЛСД – кандыдат БНФ, які без мухамораў увесь час жыве ў Сярэднявеччы.

# ЭЛЕКТАРАЛЬНЫ БАХУС